**Сёння яшчэ не позна падпісацца на «Народную Волю» на II паўгоддзе. Заставайцеся з намі!**


# Народная Воля

№ 49 (3892)

27 чэрвеня 2014 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец: УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.


**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

ГРАШОВАЕ ПЫТАННЕ

# «Здадуць» усіх

*Падатковыя органы могуць надзяліць правам на атрыманне інфармацыі, якая складае банкаўскую тайну. З такой ініцыятывай Міністэрства па падатках і зборах звярнулася ў Мінфін, які распрацоўвае змены ў Падатковы кодэкс. Размова ідзе аб магчымасці атрымання звестак аб абменна-валютных аперацыях грамадзян. Што зменіцца, калі гэтую норму ўвядуць?*

— Насельніцтва і зараз купляе валюту па пашпартах, але не заўсёды гэтыя звесткі трапляюць у падатковыя органы, бо з'яўляюцца банкаўскай тайнай, — *тлумачыць прэс-сакратар Міністэрства па падатках і зборах Беларусі* ***Сяргей ШКУТ.*** — З гэтага году ў нас ёсць магчымасць, калі праводзім праверку фізічнай асобы, запрасіць інфармацыю з банка аб паступленнях на яго банкаўскі рахунак. Наступным этапам будзе той крок, які агучыла МНС.

**— Чым гэта выклікана?**

— Тым, што вельмі шмат людзей купляюць вялікія сумы валюты. Напрыклад, паводле нашай інфармацыі, некаторыя пенсіянеры набываюць мільёны долараў. Адкуль грошы? Таму нам неабходна інфармацыя аб куплі-продажы валюты, каб мы маглі аператыўна рэагаваць на такія выпадкі. Калі норму ўвядуць, мы зможам атрымліваць звесткі нават калі ў дачыненні фізічнай асобы не праводзіцца праверка. Вось вы сёння купілі долары ці еўра — нам гэтая інфармацыя не паступае, калі вас не правяраюць. Але, паўтаруся, трэба разумець, што гэта пакуль усяго прапанова. А пройдзе яна ці не — час пакажа.

**— Калі пройдзе, у які тэрмін новаўвядзенне можа ўступіць у сілу?**

— З 1 студзеня 2015 года. Разумееце, для падаткавікоў самае галоўнае, каб вашы прыбыткі супадалі з выдаткамі. Атрымліваеце вялікі прыбытак? Ніхто не супраць. Заплаціце падаткі — і жывіце спакойна.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

**КАМЕНТАРЫЙ ЭКСПЕРТА**

### Вадзім ІОСУБ, фінансавы аналітык афіцыйнага партнёра кампаніі «Альпары» ў Мінску:

— Ці дапаможа новая норма эфектыўна змагацца з ценявым бізнесам і "адмываннем" грошай? Думаю, часткова. Тыя, хто не дэкларуе прыбытак і не плаціць падаткі, будуць шукаць іншыя шляхі, таму не выключаю, што зноў з'явяцца валютчыкі. Пры гэтым трэба разумець, што гэтыя людзі будуць браць на сябе дадатковыя рызыкі адміністрацыйнага і крымінальнага пераследу. Як мне падаецца, колькасць неплацельшчыкаў падаткаў зменшыцца, але частка сыдзе ў цень.

Што датычыцца ініцыятывы, то пасля яе прыняцця пад фінансавым кантролем апынуцца ўсе грамадзяне. Калі чалавек будзе купляць шмат валюты, а яго заробак не будзе адпавядаць таму, што набыў, у падатковай могуць з'явіцца пытанні.



АФІЦЫЙНА

## Працоўная субота

*У Беларусі працоўны дзень з пятніцы 4 ліпеня пераносіцца на суботу 12 ліпеня.*

Згодна з пастановай Савета міністраў, арганізацыям прадастаўлена права з улікам спецыфікі вытворчасці ажыццяўляць перанос рабочых дзён у іншым парадку ў адпаведнасці з заканадаўствам.

ДА ВЕДАМА

## У краіне — выхадны, у бальніцах — працоўны дзень

*Міністэрства аховы здароўя выдала загад, якім устаноўлены графік працы медыцынскіх устаноў у святочныя дні.*

3 ліпеня і бальніцы, і паліклінікі працуюць па графіку святочнага дня, г.зн. у медустановах будуць толькі дзяжурныя дактары. 4 ліпеня паліклінікі, аптэкі, станцыі пералівання крыві працуюць па графіку суботняга дня. А вось у бальніцах будзе звычайны працоўны дзень.

**Ігар ЗАЛЕСКІ.**

ДЫПКУР'ЕР

## Новым Часовым Паверанымі у Справах ЗША ў Беларусі будзе Скот Роўланд

### Ён прыедзе ў Беларусь праз некалькі дзён і мае на мэце сустрэцца з як мага большай колькасцю беларусаў

Пра гэта падчас развітальнай анлайн-канферэнцыі ў адной з сацыяльных сетак паведаміў **Ітан Голдрыч**, які ўзначальваў амерыканскую дыпмісію з лета 2012 года.

Дарэчы, на пытанне, якой была самая вялікая цяжкасць падчас працы ў Беларусі, Ітан Голдрыч адказаў так: *"Самай вялікай цяжкасцю быў пошук найбольш прадуктыўных шляхоў для дыялогу паміж урадамі нашых краін, пры гэтым захоўваючы ў цэнтры ўвагі пытанні правоў чалавека і дэмакратызацыі".*

Нагадаем, пасада амбасадара ЗША ў Беларусі застаецца вакантнай з сакавіка 2008 года пасля дыпламатычнага канфлікту паміж Мінскам і Вашынгтонам. Падставай для канфлікту сталі санкцыі ЗША ў дачыненні да канцэрна "Белнафтахім", уведзеныя ў сувязі з парушэннямі правоў чалавека ў Беларусі.

**Марына КОКТЫШ.**



*Ітан Голдрыч адказвае на пытанні сваіх сяброў у "Фэйсбуку".*

СІТУАЦЫЯ

## Народ бурліць...

*У панядзелак 30 чэрвеня ў канферэнц-зале гасцініцы "Беларусь" павінен адбыцца рэспубліканскі форум прадпрымальнікаў. На ім дробныя гандляры абмяркуюць сітуацыю, у якой апынуліся, і паспрабуюць сфармуляваць прапановы ўладам па выхадзе з яе.*

Нагадаем, што з 1 ліпеня прадпрымальнікі абавязаны мець сертыфікаты і суправаджальныя дакументы на ўсе ўвезеныя тавары, у тым ліку з краін Мытнага саюза. Яны кажуць, што атрымаць гэтыя дакументы практычна немагчыма, таму што на аптовых рынках Масквы ці той жа Украіны, дзе яны набываюць свае тавары, такіх дакументаў не выдаюць. Такім чынам, улады проста вымушаюць прадпрымальнікаў альбо згортваць свой бізнес, альбо пераходзіць на продаж беларускіх тавараў. Некаторы час яны, праўда, змогуць пратрымацца, гандлюючы рэшткамі таго, што было ўвезена раней. А што потым?

Сітуацыя настолькі трывожная, што дробныя гандляры п'юць валідол і пагражаюць забастоўкай. Баранавіцкія прадпрымальнікі ўжо нават пагражалі 3 ліпеня, у Дзень Незалежнасці Беларусі, выйсці з пратэстам на Кастрычніцкую плошчу ў Мінску. Віцебскія гандляры ў сваю чаргу пратэстуюць рублём і масава падаюць у падатковыя інспекцыі так званыя нулявыя дэкларацыі. На рынках і ў гандлёвых цэнтрах усёй краіны неспакойна, рынкі адзін за адным абвяшчаюць, што з 1 ліпеня не выйдуць на працу; што прадпрымальнікі маюць намер ісці ў цэнтры занятасці і масава рэгістравацца ў якасці беспрацоўных і гэтак далей і таму падобнае... Але ўлада на ўсе гэтыя кропкавыя пратэсты не рэагуе і намеру памяняць сваё рашэнне не выказвае.

— Прадпрымальнікі Віцебска, Бабруйска, Слуцка, Магілёва да 28 чэрвеня 2014 года падаюць "нулявыя дэкларацыі", гэта значыць яны не будуць працаваць у ліпені, — расказаў адзін з каардынатараў прадпрымальніцкага руху **Аляксандр Макаеў**. — Мінск, на жаль, не далучыўся. Спадзяюся, аднак, на салідарнасць прадпрымальнікаў Рэспублікі Беларусь, бо калі не будзе гэтай салідарнасці ўсіх, тады бізнес будзе вынішчаны.

— Сітуацыя напружаная, — пацвярджае лідар РГА "Перспектыва" **Анатоль Шумчанка**. — Людзей можна зразумець, бо ніхто не хоча згубіць тое, што было напрацавана цяжкай працай за многія гады, і застацца без кавалка хлеба. Сёння неабходна разам шукаць кампраміснае рашэнне. Прадпрымальнікі не павінны быць абыякавымі, не павінны чакаць, што за іх нехта ўсё вырашыць.

Запрашэнне ўзяць удзел у форуме прадпрымальнікаў даслана і афіцыйным асобам, прадстаўнікам Міністэрства эканомікі і Міністэрства па падатках і зборах. Але не вядома, ці захочуць яны выслухаць людзей. І ці будзе ў іх што сказаць людзям.

**Ірына МАЛЬЦАВА.**

ПАДРАБЯЗНАСЦІ

## Вуліцы Барадуліна пакуль не будзе

*Так вырашылі чыноўнікі*

Як ужо паведамляла "Народная Воля", распачалася грамадская кампанія па зборы подпісаў за прыняцце мер па ўшанаванні памяці народнага паэта Беларусі Рыгора Барадуліна. Яшчэ 6 мая гэтага года Саюз беларускіх пісьменнікаў накіраваў афіцыйны ліст прэм'ер-міністру Рэспублікі Беларусь **Міхаілу Мясніковічу** з хадайніцтвам аб стварэнні Урадавай камісіі па ўвекавечванні памяці Рыгора Барадуліна і прапановамі па ўшанаванні яго спадчыны.

Асноўнымі пунктамі дзейнасці камісіі, на думку Саюза беларускіх пісьменнікаў, павінны былі стаць падрыхтоўка і выданне Поўнага збору твораў Рыгора Барадуліна; усталяванне памятнай шыльды на доме ў Мінску, дзе жыў паэт; хадайніцтвы аб наданні імя Барадуліна вуліцам у Мінску і г.п.Ушачы Віцебскай вобласці; заснаванне мемарыяльных экспазіцый, прысвечаных жыццю і творчасці Барадуліна, у літаратурных музеях Мінска, Віцебска і Ушачаў; хадайніцтва аб наданні імя Барадуліна школе ў г.п.Ушачы; усталяванне помніка на магіле паэта.

Днямі старэйшая пісьменніцкая арганізацыя Беларусі атрымала на свой ліст несуцяшальны адказ — не ад кіраўніка Савета міністраў, а за подпісам намесніка міністра культуры **В.Чэрніка**.

З дакумента вынікае, што, апрача некалькіх лакальных мерапрыемстваў — у прыватнасці, кніжных тэматычных выстаў у Музеі гісторыі беларускай літаратуры (які зачынены на доўгатэрміновы рамонт), Нацыянальнай бібліятэцы, кніжнай выставы і літаратурнага вечара ва Універсітэце культуры і мастацтваў, больш нічога з боку дзяржавы не плануецца.

Памяць творцы агульнанацыянальнага маштабу на малой радзіме мяркуюць ушанаваць, пашырыўшы частку экспазіцыі, прысвечанай Р.Барадуліну, ва ўстанове культуры "Ушацкі музей народнай славы імя Героя Савецкага Саюза У.Е.Лабанка".

**РЭЗАНАНС**

*— Гэты адказ — звычайная чыноўніцкая адпіска, —* каментуе чыноўніцкі ліст старшыня ГА "Саюз беларускіх пісьменнікаў" **Барыс Пятровіч (Сачанка). —** *Практычна ніводная з прапаноў Саюза беларускіх пісьменнікаў не падтрымана. Стварэнне Урадавай камісіі па ўшанаванні памяці народнага паэта Беларусі Рыгора Барадуліна дзяржава палічыла "не абавязковым". Можа, яно і так... Бо што з таго, што пасля смерці народнага пісьменніка Беларусі Васіля Быкава (90-годдзе з дня нараджэння якога мы нядаўна адзначылі) такая камісія была створана і нават была прынята адпаведная пастанова Савета міністраў? Але большасць галоўных пунктаў той пастановы так і не выкананы за 11 гадоў. Дагэтуль няма вуліц Васіля Быкава ў Мінску і Гродне, няма шыльдаў на дамах, дзе ён жыў, не выходзіць у дзяржаўным выдавецтве Збор твораў... Прыкра і горка ўсведамляць, што так абыякава беларуская дзяржава ставіцца да памяці пра сваіх лепшых сыноў. Але не трэба адчайвацца. Значыць, варта спадзявацца толькі на свае сілы. І першай справай для ўсіх нас: пісьменнікаў, сяброў, прыхільнікаў творчасці Рыгора Барадуліна — павінна стаць дапамога сям'і ва ўсталяванні помніка на магіле народнага паэта ва Ушачах. Ну і варта працягваць бамбардзіраваць галовы чыноўнікаў лістамі аб неабходнасці перайменавання вуліц, выдання Збору твораў, устаноўкі шыльдаў на дамах, дзе жылі творцы — не толькі* ***Рыгор Барадулін і Васіль Быкаў, але і тыя, хто сёлета пайшоў ад нас, — Анатоль Кудравец, Уладзімір Дамашэвіч, Давід Сімановіч, Генадзь Бураўкін...***

ПАДЛІЧЫЛІ

## Было «добра», стала «лепей»

### Белстат канстатуе: у Беларусі знізіўся рэальны памер пенсій.

У маі сярэдні памер пенсій у нашай краіне склаў 2 мільёны 330 тысяч рублёў.

Сярэдні памер пенсій па ўзросце — 2,41 мільёна рублёў, па інваліднасці — 2,13 мільёна, па прычыне страты карміцеля — 1,5 мільёна, сацыяльных пенсій — 1,1 мільёна рублёў.

Самі па сабе, у грашовым вымярэнні, пенсіі меншымі не сталі. Але калі пералічыць іх з улікам інфляцыі — абясцэньвання беларускіх грошай, то высвятляецца, што ў параўнанні з красавіком гэтага года майская пенсія стала меншай на 1,8 працэнта.

- Слышь, старуха, не получается у рыбки депутатскую пенсию тебе выправить. Спрашивает, может чего попроще... ну, там, владычицей морскою?..

ПАД ГРАДУСАМ

## Лета ідзе!

*Сіноптык* ***Дзмітрый Рабаў*** *абяцае: прыкметы паляпшэння надвор'я стануць заўважныя ўжо з суботы.*

"Першымі атрымаць асалоду ад сапраўднага летняга надвор'я змогуць жыхары паўднёва-заходніх раёнаў Брэсцкай вобласці, — *распавядае пра надвор'е на бліжэйшыя дні сіноптык.* — Атмасферны ціск падрасце, і ў многіх раёнах Беларусі дажджы спыняцца, толькі па паўночным усходзе краіны яшчэ магчымы невялікія кароткачасовыя дажджы, дзе-нідзе з навальніцамі. Тэмпература паветра мінімальная ноччу +4...+10°С, максімальная днём +15...+22°С, па паўднёвым захадзе Брэсцкай вобласці +23...+25°С.

***У нядзелю*** цёплае паветра распаўсюдзіцца на ўсю краіну. Тэмпература паветра чакаецца ноччу +8...+15°С, максімальная днём +22...+28, па паўночным усходзе краіны на пару градусаў халадней. Ноччу пераважна без ападкаў, днём месцамі, у асноўным у паўночна-заходніх раёнах, магчымы кароткія летнія дажджы, дзе-нідзе з навальніцамі. Ноччу і раніцай месцамі ненадоўга заклубіцца туман. Некаторы дыскамфорт у такое надвор'е ўнясе слабы паўднёвы вецер.

ПО ПОВОДУ



*Мария ЭЙСМОНТ*

## Руками благотворителей

За последние две недели в нашу редакцию пришло сразу несколько писем о строительстве в Минске детского хосписа. Всех авторов покоробило: закончился чемпионат мира по хоккею, и теперь по белорусскому телевидению нас всех призывают скинуться на строительство детского хосписа. "На выпендреж потрачены колоссальные средства, — возмущаются читатели, — а на больных детей в нашем государстве денег нет".

Если разобраться, на строительства детского хосписа по государственным меркам требуются сущие копейки — 4 миллиона долларов. Новая спецбольница для чиновников, строительство которой со дня на день начнется в поселке Ждановичи под Минском, оценена предварительно в 100 миллионов евро. И вряд ли кто-то сомневается, что эти деньги могут не найтись. Да что там больница, только на столовые приборы, элитный рояль и систему видеонаблюдения для новой резиденции президента из бюджета будет потрачено 4,5 миллиарда рублей. Это почти столько, сколько собрано сегодня средств на строительство хосписа. А благотворительная акция началась, между прочим, три года назад. Т.е. за три года белорусы пожертвовали на детский хоспис всего лишь 400 тысяч долларов. Значит, чтобы собрать 4 миллиона потребуется... 30 лет!

Вас не удивляет такое безучастие к строительству детского хосписа?

Вряд ли белорусов можно назвать людьми черствыми, бессердечными, глухими к чужой боли. Сужу по публикациям в "Народной Воле": как только газета рассказывает о чьей-то беде — читатели обрывают телефон, требуют сообщить адрес, реквизиты для перечисления денег. А тут речь идет о реальной помощи маленьким детям, которые безнадежно больны, но которые так же, как их сверстники, хотят смотреть мультики, играть с братиками и сестричками, тискать любимую собаку. Как посчитали волонтеры, если 400 тысяч человек пожертвуют по 10 долларов, сумма будет собрана.

Так почему же так медленно идет сбор средств на столь благое дело?

Возможно, потому, что ситуация со строительством детского хосписа — это как лакмусовая бумажка того, что происходит в нашем обществе, это такой своеобразный народный протест. Все видят, как разбазариваются государственные средства, и если в стране есть деньги на новые резиденции, на новый президентский самолет, на спецбольницу для чиновников, то почему на детский хоспис скидываться нужно всем миром? Почему руками благотворителей у нас хотят решать проблемы, которые касаются не одного человека — тысяч белорусов. Пример со строительством хосписа — не единственный. Недавно в Витебске под видом благотворительности врачей обязали собирать средства на медоборудование. Единственный на всю область диагностический аппарат, который помогает выявить онкологическое заболевание на ранней стадии, сломался, а средств купить новый — нет! Зато есть 100 тысяч долларов на элитный кабинетный рояль для новой президентской резиденции. Сколько раз в год будут на нем музицировать? А сломанный аппарат в Витебском онкодиспансере помогал выявить или исключить болезнь у тысячи пациентов в год.

Разве это справедливое распределение бюджетных денег?

Все 20 лет со дня образования единственный в стране детский хоспис существовал за счет пожертвований. Не пора ли государству принять участие в судьбе маленьких граждан?!

Тот, кто в теме, может возразить: государство не находится в стороне от строительства нового хосписа. Участок под строительство выделен бесплатно, Минздрав обещает взять на себя расходы по содержанию будущего здания и по оплате услуг персонала. Но и это аргументы в пользу бедных. Потому что если можно выделять чиновникам под строительство коттеджей бесплатно элитную землю в столичных Дроздах и Веснянке, где стоимость одного участка доходит до 300—400 тысяч долларов, то почему нельзя подарить 0,9 га земли в Боровлянах детскому хоспису?!

Говорят, что европейцы судят о благосостоянии и культурном уровне страны по количеству в ней хосписов. Если следовать этой логике, наш культурный уровень — со знаком "минус". А ведь каждый из нас хочет быть (по крайней мере выглядеть) чище, лучше, благороднее. И никто не может быть уверен, что беда не коснется его семьи. В ситуации, когда государство не способно решить проблему, а мы не способны потребовать от него сделать это, нам не остается ничего другого, как действовать самим.

Перечислить деньги на строительство нового здания детского хосписа можно на благотворительный счет:

*ОАО "БПС-Сбербанк", код 369*
*Расчетный счет №: 3135145259013 (Белорусские рубли)*
*Получатель: ОБО "Белорусский детский хоспис"*
*223053, Минский р-н, д.Боровляны, ул. Березовая роща, 100А*
*УНН 100806662*

СІТУАЦЫЯ

# Бязглуздзіца

## Як адзін чалавек можа зладзіць «масавую акцыю»

Упраўленнем Вярхоўнага камісара ААН па правах чалавека зарэгістраваны зварот жыхара вёскі Буяны Віцебскага раёна **Леаніда Здрэстава**. Беларус вымушаны быў звярнуцца ў міжнародны орган па абарону сваіх правоў пасля таго, як беларускія ўлады адмовілі яму ў дазволе на правядзенне пікету. А ўсе судовыя інстанцыі, у якіх ён спрабаваў абскардзіць гэтую адмову, — ад Кастрычніцкага райсуда Віцебска да Вярхоўнага Суда Рэспублікі Беларусь — сталі на бок улад.



Мэта пікету, які ў выніку забароны ўладамі Леанід Здрэстаў так і не зладзіў, была простая: інфармаванне жыхароў Віцебскай вобласці пра сістэматычныя парушэнні дзяржаўнымі органамі і арганізацыямі Рэспублікі Беларусь яго правоў і законных інтарэсаў. Пікет быў забаронены намеснікам кіраўніка адміністрацыі Кастрычніцкага раёна Віцебска Віктарам Галанавым на той падставе, што арганізатар пікету не заключыў дамоў са службай ЖКГ, міліцыяй і паліклінікай, тым самым не выканаўшы патрабаванняў рашэння Віцебскага гарвыканкама №881 ад 10 ліпеня 2009 года “Аб масавых мерапрыемствах у г.Віцебску”.

Цікава і вось што: у пікеце мусіў браць удзел толькі адзін чалавек. Незалежныя юрысты перакананы, што такое адзіночнае пікетаванне паводле свайго сэнсу, паводле логікі ніяк не можа разглядацца як масавае мерапрыемства. Таму адмова ў правядзенні адзіночнага пікета на падставе заканадаўства аб масавых мерапрыемствах — гэта бязглуздзіца. Тым не менш беларускія суды гэтага аргумента не пачулі.



Нагадаем, што Леанід Здрэстаў — не першы жыхар Віцебшчыны, якому мясцовыя ўлады забаранілі пікет і які не змог адстаяць свае правы ў беларускіх судах, таму ў выніку звярнуўся ў Камітэт ААН па правах чалавека. Як правіла, КПЧ у такіх выпадках падтрымлівае заяўнікаў і прызнае, што ўлады парушылі правы грамадзяніна на распаўсюджванне інфармацыі і публічнае выказванне сваіх меркаванняў. У сваіх рашэннях па аналагічных справах КПЧ ужо звяртаў увагу ўлад Беларусі на неабходнасць прыняцця мераў па недапушчэнні такіх парушэнняў правоў чалавека ў будучыні.

Аднак у кабінетах беларускіх начальнікаў зважаць на рашэнні КПЧ не спяшаюцца. Рашэнне Віцебскага гарвыканкама, спасылаючыся на якое за амаль пяць гадоў мясцовыя ўлады не дазволілі ў Віцебску ніводнай акцыі апазіцыянераў і грамадскіх актывістаў, скасоўваць ніхто не збіраецца. Як ніхто не збіраецца нешта мяняць і ў законе “Аб масавых мерапрыемствах”, які дае права мясцовым уладам на ўласны одум забараняць грамадзянам ладзіць мірныя акцыі і публічна выказваць свае меркаванні, што несумяшчальна з прынцыпамі дэмакратыі. Бо, як мы ўжо не раз пісалі, аналагічная сітуацыя з правядзеннем публічных акцый склалася па ўсёй краіне.

### А ЯК У ІХ?

Расія — не самая дэмакратычная краіна. Але нават паводле расійскага заканадаўства для правядзення пікету адным удзельнікам падача заяў ці апавяшчэнняў не патрабуецца.

Расійскімі законамі ўстаноўлена, праўда, мінімальная адлегласць, якая павінна быць паміж пікетоўцамі (не больш за 50 метраў), калі з адзіночнымі пікетамі выходзяць некалькі чалавек.

Ва ўсіх цывілізаваных краінах свету на падобныя акцыі ўвогуле ніякага дазволу ўлад не патрабуецца. І, зразумела, як масавыя яны не разглядаюцца.

### НАШ ВОПЫТ

У Беларусі суды не раз прызнавалі адзіночныя пікеты “масавымі акцыямі”, не зважаючы на тое, што гэта сапраўды бязглуздзіца.

Так, скульптар **Генік Лойка** некалькі гадоў запар у Дзень роднай мовы спрабаваў ладзіць адзіночныя пікеты. Летась з плакатамі ў абарону роднай мовы ён стаў каля ганка беларускамоўнай гімназіі №4. Пасля пікету Геніка затрымалі, арыштавалі на 5 сутак. Сёлета ён зноў падаў заяўку ў Мінгарвыканкам на адзіночны пікет, але ідэалагічны аддзел яму адмовіў.

Баранавіцкі актывіст **Уладзімір Гундар** вечарам 4 сакавіка правёў на плошчы Леніна адзіночны пікет у падтрымку ўкраінскага народа. Хвілін праз 10 пасля пачатку пікета да Уладзіміра падышлі супрацоўнікі міліцыі. Праверыўшы дакументы, пайшлі далей. Аднак праз некаторы час міліцыянеры вярнуліся назад, папрасілі актывіста скруціць плакат, пасля чаго затрымалі. Суд прызнаў спадара Гундара вінаватым у здзяйсненні адміністрацыйнага правапарушэння, прадугледжанага ч.2 арт.23.34 КаАП РБ (арганізацыя і правядзенне несанкцыянаванага масавага мерапрыемства) і прысудзіў адміністрацыйны штраф у памеры 15 базавых велічынь. Украінскі сцяг, які актывіст накінуў на плечы, суд пастанавіў знішчыць.

Магілёўскі актывіст **Мікалай Гладышаў** трапіў у сталічны Цэнтр ізаляцыі правапарушальнікаў пасля таго, як зладзіў адзіночны пікет супраць намераў размясціць у Беларусі расійскую авіябазу. Акцыю пратэсту з плакатам “Не — замежным ваенных базам! Расійскія вайскоўцы, прэч!” актывіст праводзіў насупраць расійскай амбасады. Суд Цэнтральнага раёна Мінска пакараў Гладышава дзесяцісуткавым адміністрацыйным арыштам, палічыўшы, што актывіст незаконна праводзіў масавае мерапрыемства.

Падобных прыкладаў у беларускай праваабарончай хроніцы шмат. Праваабаронцы звярталіся ў Савет міністраў з заклікам унесці ў парламент прапанову аб выключэнні са сферы дзеянняў Закона “Аб масавых мерапрыемствах у Рэспубліцы Беларусь” адзіночнага пікетавання. Яны лічаць, што зараз склалася ненармальная і проста абсурдная сітуацыя. Аднак афіцыйныя беларускія ўлады па-ранейшаму не заўважаюць відавочнай бязглуздзіцы.

**Ігар МАРОЗАЎ.**

РЭГІЁНЫ

## Досыць!

*У Магілёўскім гарадскім выканаўчым камітэце правялі “круглы стол” на тэму перайменавання Савецкай плошчы ў плошчу Славы.*

У пасяджэнні бралі ўдзел дэпутаты гарадскога Савета дэпутатаў, прадстаўнікі выканаўчай улады, працоўных калектываў, сродкаў масавай інфармацыі, грамадскасці горада.

*“З 15 членаў бюро каардынацыйнай рады, за якімі стаяць грамадскія арганізацыі, грамадскія аб’яднанні, 13 чалавек выказаліся за перайменаванне і двое прапанавалі свае назвы для перайменавання — Ратушная і Губернатарская”,* — даклала намеснік старшыні Магілёўскага гарадскога Савета дэпутатаў **Зінаіда Пянькова.**

Удзельнікі “круглага стала” сышліся ў меркаванні, што назва “Плошча Славы” будзе больш дакладна адлюстроўваць ідэю цэнтральнай плошчы горада. Канчатковае рашэнне па перайменаванні плошчы Савецкай у плошчу Славы будзе прынята на сесіі гарсавета, якая запланавана на 1 ліпеня.

## Шкада свінак...

*Тое, што ў Беларусі зноў фіксуюцца ўспышкі АЧС, ніхто з афіцыйных асоб не пацвярджае. Але яшчэ ў адным раёне людзям загадалі тэрмінова пазбавіцца ад свіней. На гэты раз — у Шчучынскім.*

Ветурач **Сяргей Шэршань** факт успышкі афрыканскай чумы не пацвердзіў, але і не абверг. Ён толькі паведаміў, што людзям было прапанавана *“самастойна абмежаваць пагалоўе свіней”.* Прычынай таму доктар называе надыход сезона грыбоў і ягад, калі мясцовыя жыхары часта ходзяць у лес і могуць прынесці інфекцыю на падворак. Больш ветурач нічога каментаваць не стаў.

## Беларусы — людзі добрыя

*З незвычайнай скаргай звярнулася да старшыні Гродзенскага аблвыканкама гаспадыня аграсядзібы ў Ваўкавыскім раёне.*

Як аказалася, суседзі проста зжываюць са свету яе бізнес. Як толькі ў аграсядзібу прыязджаюць наведвальнікі, хто-небудзь з суседзяў абавязкова выклікае міліцыю. “Ужо і ўзровень шуму вымяралі на мяжы ўчастка, і санстанцыя прыязджала, але як толькі выйдуць адпачываючыя пасля лазні, заспяваюць пад гітару, з’яўляецца нарад, і даводзіцца запаўняць пратаколы, распавядаць пра сябе, што робяць і гэтак далей”, — расказала наведвальніца падчас асабістага прыёму ў кіраўніка вобласці.

Прычым “апавяшчальнікі” заўсёды ананімныя. Але, ясная справа, што аграсядзіба, дзе міліцыя высвятляе, хто, з кім і для чаго прыехаў адпачываць, папулярнасцю карыстацца не будзе.

## На фермах з’явіліся даяры

*У ААТ “Гавялы-Агра” Шклоўскага раёна кадравую праблему вырашылі радыкальным спосабам.*

Прыехаўшы на мясцовы малочнатаварны комплекс, можна ўбачыць, што кароў тут дояць мужчыны. Але даяры замянілі даярак не проста так. Усе яны — асуджаныя папраўчай установы адкрытага тыпу №49. Пакуль такі вопыт ацэньваецца станоўча. Асуджаныя спраўляюцца са сваімі абавязкамі як мінімум не горш за мясцовых жыхароў і станоўча характарызуюцца з боку адміністрацыі.

## У Лунінцы 43-гадовага зваршчыка засыпала зямлёй у катлаване

*Няшчасны выпадак адбыўся на тэрыторыі цэнтральнай раённай бальніцы, дзе брыгада рабочых рамантавала каналізацыю.*

Зваршчык знаходзіўся на дне чатырохметровага катлавана, калі адбылося абвальванне зямлі. Калегі выклікалі ратавальнікаў, а самі сталі адкопваць няшчаснага, але, калі яго выцягнулі, было ўжо позна. Медыкам заставалася толькі канстатаваць смерць.

Зараз усе акалічнасці здарэння высвятляюць супрацоўнікі Лунінецкага раённага аддзела Следчага камітэта.

## Па слядах беларускага цмока

*За апошні час прайшлі тры экспедыцыі па Вілейшчыне, Маладзечаншчыне і Валожыншчыне ў межах праекта “Вера Беларусі. Па слядах беларускага цмока”.*

Апошняя з іх адбылася ў сярэдзіне чэрвеня на Вілейшчыну. Здзейснены экспедыцыі пад кіраўніцтвам філосафа і даследчыка з Мінска **Ірыны Дубянецкай.**

Падчас экспедыцый у ліку іншага шукалі сведчанні цмачынай традыцыі.

Цмок — міфічная істота. Паданні і міфы пра цмокаў ёсць практычна ва ўсіх народаў свету. Паводле паданняў, цмок мае вялікія памеры, можа лятаць і выдыхаць полымя са сваёй пашчы, а таксама валодае чароўнымі здольнасцямі.

НЕЗАШОРАНЫМ ВОКАМ

Лявон БАРШЧЭЎСКІ

## Яшчэ раз пра «раўнапраўе» моў

Днямі ў Мінску атрымаў заданне набыць паводле просьбы грамадскага аб’яднання “Таварыства беларускай школы” 20 падручнікаў па біялогіі для вучняў, якія хочуць вывучаць гэты прадмет па-беларуску. У адной з мінскіх кнігарань знайшоў тое, што трэба, — падручнік для 10 класа агульнаадукацыйных школ пад рэдакцыяй прафесара Мікалая Лісава. Кошт аднаго асобніка — 44.300 беларускіх рублёў. Разлічыўся за набытыя кнігі і тут жа звярнуў увагу на той жа самы падручнік у рускамоўнай версіі, які таксама стаіць на паліцы кнігарні. Дык вось, кошт рускамоўнага асобніка — 29.200 рублёў, гэта значыць на 15.100 рублёў танней за падручнік на беларускай мове. У суме, такім чынам, калі б я набываў кнігі, напрыклад, для грамадскага аб’яднання “Русь”, я за тыя дваццаць кніжак заплаціў бы на 302 тысячы рублёў (у пераводзе на 30 долараў) менш! Вось такая арыфметыка...

Ужо колькі разоў за апошнія дваццаць гадоў ад чыноўнікаў самых розных рангаў мы чуем байкі пра нібыта існуючае раўнапраўе беларускай і рускай моў у Беларусі — і асабліва ў сістэме адукацыі. Аляксандр Лукашэнка нязменна раздражняецца, калі на прэс-канферэнцыях яму зрэдчас задаюць пытанне пра моўную праблему ў нашай краіне; кажа, што “гэтае пытанне ў нас вырашана раз і назаўсёды”. Вось так — вырашана. Бацькі, маўляў, не хочуць аддаваць дзяцей у беларускія школы, а пішчом шчэмяцца ў рускія. Беларускія чыноўнікі падтрымліваюць прапагандысцкі міф пра тое, што падручнікі ў агульнаадукацыйнай школе ледзьве не “бясплатныя”. Калі ж сказаць праўду, сёння ўсе падручнікі выдаюцца фактычна за бацькоўскія грошы. На пачатку кожнага навучальнага года бацькі плацяць прыкладна 3

чвэрць рынкавага кошту ўсіх падручнікаў і гэткім чынам за чатыры гады кампенсуюць іх поўны кошт (бо гэтыя кнігі з’яўляюцца ўласнасцю школьных бібліятэк). Заўважце: новыя выданні практычна кожнага школьнага падручніка з’яўляюцца адзін раз на 4—5 гадоў. Гэта значыць, што дзяржава ў шэрагу выпадкаў яшчэ і мае прыбытак з кішэні бацькоў. Ну, і вы самі разумееце, што бацькі дзяцей беларускамоўных школ мусяць плаціць істотна большую суму, бо падручнікі на беларускай мове каштуюць даражэй. Нехта скажа: рускамоўныя падручнікі выпускаюцца большымі накладамі, таму яны і таннейшыя. Гэта праўда. Толькі ж ці не абавязак дзяржавы кантраляваць рознічныя кошты, каб бацькі вучняў руска- і беларускамоўных школ знаходзіліся ў роўных умовах? Дарэчы, на пачатку 1990-х гадоў існавалі тэндары на выданне вучэбнай літаратуры. І, як правіла, падручнікі і дапаможнікі, выдадзеныя ў прыватных выдавецтвах, каштавалі значна танней за тыя, што выходзілі ў дзяржаўных выдавецтвах. Але ў часы нязменнага ўладарання “самага справядлівага на свеце кіраўніка” прыватным выдавецтвам фактычна забаранілі займацца выданнем падручнікаў і дапаможнікаў для сярэдняй школы і ВНУ.

Хачу таксама пры нагодзе звярнуць увагу і на наступнае. Сёння ў Беларусі бацькі вучняў беларускамоўных школ не могуць набыць у кнігарнях тое, што ад іх патрабуюць настаўнікі-прадметнікі: напрыклад, працоўныя сшыткі па сусветнай гісторыі, грамадазнаўстве, геаграфіі ці інфарматыцы або нават атлас па геаграфіі Беларусі на беларускай мове. Іх проста няма ў прыродзе або яны адсутнічаюць у свабодным продажы! Пра інтэрактыўныя вучэбна-метадычныя дапаможнікі я ўжо не кажу: практычна ўсе яны з ласкі нашага Міністэрства адукацыі выдаюцца толькі на рускай мове. А гэта значыць, што настаўнік беларускамоўнай школы апынаецца ў заведама пройгрышнай сітуацыі ў параўнанні са сваім калегам, што прапагандуе ў школе “великий и могучий”. Лішне тут казаць, што беларускамоўны настаўнік, паколькі найчасцей працуе ў малакамплектнай школе, атрымлівае заробак яшчэ больш мізэрны, чым зноў-такі яго рускамоўны калега. На мове міжнароднага права ўсё гэта называецца не інакш як “дыскрымінацыя па моўнай прыкмеце”. У любым выпадку “раўнапраўем” тут і не пахне.

### Смак беларускай мовы



**Суніцы -** земляника



**Агрэст -** крыжовник



**Шыпшына -** шиповник

ГРОМКОЕ ДЕЛО

# Щелкнули наручники

Председатель Ивьевского райисполкома задержан по подозрению в коррупции. Произошло это еще в понедельник, 23 июня, однако СМИ стараются скандал не раздувать.

*“Действия председателя исполнительного комитета квалифицированы по ч.3 ст.424 Уголовного кодекса Республики Беларусь. Наложен арест на имущество. Готовятся материалы для предъявления обвинения и применения меры пресечения”,* — сообщила официальный представитель Следственного комитета Беларуси **Юлия Гончарова.**



Таким образом, дело возбуждено по статье “Злоупотребление властью или служебными полномочиями”. Часть 3 означает, что действия должностного лица повлекли тяжкие последствия. Уголовный кодекс предусматривает, что наказание может быть следующим: лишение свободы на срок от 3 до 10 лет с конфискацией имущества или без конфискации и с лишением права занимать определенные должности или заниматься определенной деятельностью.

Никакой другой официальной информации пока нет. Известно только, что дело возбудила Генеральная прокуратура Республики Беларусь по материалам Главного управления по борьбе с организованной преступностью и коррупцией МВД Республики Беларусь.

На сайте Ивьевского райисполкома Михаил Михайлович Волчецкий до сих пор значится председателем. На эту должность он был назначен указом президента 30 сентября 2010 года. Прежде чем возглавить один из самых отсталых районов Гродненщины, он работал начальником управления сельского хозяйства и продовольствия в соседнем Ошмянском районе.

Еще недавно государственные газеты писали про Волчецкого так: “Не по годам мудрый руководитель”. А сам он рассказывал, что начинает свой рабочий день в 4 утра с объезда ферм, обещал навести в районе порядок, бороться с коррупцией. Однако коррективы в эти планы внесли правоохранители.

По неофициальной информации, арест Волчецкого непосредственно связан с новостью, распространенной пресс-службой Генпрокуратуры месяц назад. Тогда общественность узнала, что один из руководителей района *“подозревается в том, что в целях снижения расходов, связанных со строительством принадлежащих ему двух жилых домов, расположенных в деревнях Ивьевского района, в течение нескольких лет давал незаконные указания руководителям предприятий района о производстве строительно-монтажных и иных работ с привлечением работников этих организаций, безвозмездной передаче ему стройматериалов и отчуждении иных товарно-материальных ценностей, оказании транспортных услуг”.*

Одним словом, похоже, мы имеем еще одного чиновника, которого испортил квартирный вопрос.

**Елена НОВИКОВА.**



ВПЕРВЫЕ

## Живая библиотека в Минске

*Бесплатные ярмарки — уже обычное для Минска дело, но раньше там преимущественно менялись одеждой. Теперь нас ожидает первая бесплатная ярмарка книг.*

Ярмарка пройдет в тайм-кафе Come_In в воскресенье, 29 июня. Вход в этот день будет бесплатным, также как и все книги, диски и открытки. Если у вас дома залежи качественной литературы, то вы можете принести их на ярмарку, а если нет, то просто прийти и забрать понравившиеся книжки.

*— Мне кажется, что в современном мире мы все слишком много потребляем, поэтому бесплатная ярмарка — одна из возможностей немножко отойти от избыточного потребления и традиционных товарно-денежных отношений*, — рассказывает одна из организаторов мероприятия **Ксения Малюкова.**

Ярмарка пройдет с 12.00 до 17.00. А по окончании в 18.00 начнется другое действо, может быть, даже интереснее ярмарки. “Живая библиотека” — это встреча с человеком, “читать” которого в разы увлекательнее, чем книгу. В роли книг тут выступают живые люди: у большинства из нас есть стереотипы, например, о гомосексуалистах, мусульманах, наркозависимых или просто много вопросов к ученым, многодетным матерям и священникам. “Живая библиотека” — это возможность лично поговорить с человеком с необычной жизненной историей и задать ему даже самые глупые, на первый взгляд, вопросы.

“Живая библиотека” впервые возникла в Дании в 2000 году, когда на глазах у нескольких подростков зарезали их друга. Ребята решили создать проект, направленный на то, чтобы насилия в мире стало меньше и люди смогли лучше понимать друг друга. “Почитать” книги в “Живой библиотеке” в Минске тоже можно будет абсолютно бесплатно.

КОНКУРС

## Якая аграсядзіба — лепшая?

*“Белаграпрамбанк” абвясціў пра старт рэспубліканскага конкурсу “Лепшая аграсядзіба года”.*

Заяўку на конкурс можна падаць да 1 жніўня.

Пераможцы будуць адабраны ў намінацыях “Лепшы старт”, “Этнакомплекс”, “Беларуская традыцыйная кухня”, “Экасядзіба года”, “Стыль і гармонія”.

ПА-ЗА ГУЛЬНЁЙ

## Азаранка ніяк не можа ачомацца

*Беларуская тэнісістка прайграла на Уімблдонскім турніры 45-й ракетцы свету.*

Азаранка з-за траўмы не гуляла на турнірах амаль тры месяцы, і ў стартавым матчы на Уімблдоне ва ўпартай барацьбе перамагла харватку Мір’яну Лючыч-Бароні. Гэта была першая перамога Вікторыі ў гэтым годзе. Але на большае беларускі не хапіла.

Ужо ў матчы другога раўнда Азаранка прайграла 45-й ракетцы свету Баяне Яваноўскі з Сербіі.

Спецыялісты адзначаюць, што пасля траўмы працэс вяртання формы ў розных спартсменаў праходзіць па-рознаму. Паглядзім, калі беларуская тэнісістка зможа зноў заззяць на тэнісным небасхіле. Але верым у гэта...

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

Віктар КАРАМАЗАЎ

# Мае дзяды



*Вядомаму беларускаму пісьменніку Віктару Карамазаву — 80! Віншуем!*

*Калі жыццё пражытае, ты гэта адчуў і ёсць дзянькі з міласці божай, каб на апошняй ростані штосьці яшчэ вакол пачуць і ўбачыць, вяртаешся ў думках да сваіх пачаткаў, на малую, як у народзе кажуць, радзіму, дзе ўсё найдаражэйшае, нібы жывое: хата маленства, бярозка, свая рэчка, мама і бацька, браты і сёстры, першыя сябры і настаўнікі, пад курганамі продкі, кроўныя, духоўна блізкія, што зрабілі цябе чалавекам. Гэта адбываецца з кожным, і гэта адбываецца цяпер са мною. Звязваю ў адзін ланцуг вузельчык з вузельчыкам, каб зразумець найглыбей, як нельга зразумець у гады маладыя, адкуль я родам, ад якіх каранёў, з кім і як, пад якім святлом і ценем, клаў свой жыццёвы круг, да чаго прыйшоў, а за гэтай думкай і большае зразумець — адкуль усе мы родам, як усе мы кружым па жыцці, куды, да чаго прыйшлі ўсім сваім крывіцка-радзіміцкім гуртам, што ўрэшце шукаем і да чаго яшчэ, ужо і за маім небакраем, прыйдзем. Думаю, бо і я там буду. Не целам, дык духам. І я, і ўсе мы.*

*Прапаную жмену старонак са сваёй новай, да канца яшчэ не напісанай кнігі.*

Вясна. Мы з мамай вяртаемся з Мінска, з зімовай кватэры, у свой крычаўскі дом на беразе Сажа. Выехалі рана, бо дарога не блізкая. Да Магілёва мама побач са мной маўчала, вочы то заплюшчвала, то расплюшчвала, як дабірала сну, на які не хапіла кароткай перад ад'ездам, у зборах, ночы, і разам з тым як прыглядалася да дарогі, шукала абапал штосьці знаёмае, а я круціў руль ды думаў пра лета наперадзе, як нам, прыехаўшы, адсеяцца, дзе ўзяць каня, бо гарадок — не вёска, каня адшукаць не лёгка. Праехалі і Магілёў, і Чавусы, спускаліся з гары да моста цераз Проню, калі мама, адчуўшы, што блізка яе і мой, абаім, родны Чэрыкаў, спытала:

— Дзе гэта мы ўжо?

Сказаў, што зараз будзе мост цераз Проню, і тут яе думка здзівіла мяне:

— Мы з табою жывём, як жылі князь і княгіня Абаленскія.

— Нешта ты ўспомніла пра князя, княгіню?

— А яны ж таксама зімавалі ў сталіцы, у Парыжы, на лета вярталіся сюды, на Сож, у Горку. Як і мы вяртаемся ў свой, на Сажы, палац.

— У нас хата.

— Хай сабе хата, а нам даражэйшая за палацы.

— У князя былі коні, а мы з табой ці знойдзем якую клячу, каб агарод узараць, адсеяцца?

Пра агарод мама яшчэ не думала, а пра коней падхапіла:

— О-го, былі ў князя стаеннікі! На парцы белых ездзіў.

— Ты бачыла? Малая ж была?

— А чаму ж не бачыла? Бацька рабіў у князя, мяне з сабою браў, я гэта любіла. Княгіня заўсёды што-небудзь падорыць. Якія чаравічкі, былі ў мяне беленькія, ад княгіні, якую хустачку. Смачна пакорміць.

Ад мамы я шмат ведаў пра князя, княгіню, пра жыццё ў іх у Горцы, бо яе бацька, мой дзед Анісім Шаблоўскі, быў у пашане там за свае залатыя рукі, якімі ўсё мог зрабіць прыгожа, як адмысловы мастак па дрэве, метале, фарбах, гліне, скуры. Шыў паляўнічыя боты, ягдташы, вупраж на дарагіх скакуноў, рабіў фаэтоны, карэты, распісваў палац і нават аднойчы, калі князь згубіў свой парадны, з Парыжа, чаравік, узяў у яго той, што застаўся, і па ім вырабіў гэтакі другі, ажно князь не мог адрозніць, дзе парыжскі, а дзе Анісімаў, і насіў тыя чаравікі ў Парыжы як вялікую каштоўнасць, свой рарытэт.

Але цяпер мяне зацікавіла княгіня:

— Ты, мама, кажаш, што і князь быў добры, і княгіня, але хто княгіню забіў, за што? Хто спаліў палац княскі ў Горцы?

— А я ж табе казала?

— Так, казала. Ведаю. Але ж не ўсё? Усё ведаў пра тую кроў у Горцы дзед, твой бацька.

— Сын хросны яе забіў. Жылі ў Мірагошчы, побач з Горкай, праз ручай, два хлапцы, сіраты. Княгіня ўзяла іх да сябе, вучыла, карміла, апранала. Абодва былі яе хроснымі. Шмат каму ў вёсцы яна была хроснай маткаю. Сяляне гэта любілі, бо ўсім сваім хросным давала добрыя падарункі, аб іх клапацілася. І гэтыя хлопцы, браты, мелі ад яе вялікую ласку. Працавалі ў яе садоўнікамі. Старэйшага яна паслала ў Пецярбург вучыцца, а ён пайшоў там у матросы, у рэвалюцыю. Князь у дзясятым годзе памёр, нечакана, а ўжо і рэвалюцыя. З'явіўся матрос. У фурмана пытаецца, дзе княгіня. А той бачыць у яго на рамяні наган, гранаты з аднаго боку, з другога, кажа, што не ведае. Матрос яго адпіхнуў, сам да княгіні ў спальню, а там і яна. Ён гранату кінуў, а не ўзарвалася. Ён за наган, а тут зноў фурман Васіль, не пускае да княгіні. Той тады з нагана ў Васіля, забіў, мёртвага нагою адпіхнуў, кінуў другую гранату. Забіў і яе. Палац падпаліў з двух бакоў і пайшоў у Язёры, блізкую вёску, дзе стаяў стары дом Абаленскіх. Там застрэліў княскага лесніка, яго матку і жонку, паляка і француженку, маладых, якія прыехалі да княгіні на лета. Шукаў сына княгіні, з якім раней сябраваў, каб і таго застрэліць, ды не знайшоў, той быў якраз у Чэрыкаве ў доктара. А назаўтра там, у Горцы, быў ужо мой бацька, прыйшоў да княгіні, а знайшоў у склепе, у тазе, яе абгарэлую галаву. Во як гэта было.

Я ў мамы спытаў пра тое, што чуў ужо не ад яе:

— Кажуць, што мужыкі ў Мірагошчы матросу адпомсцілі за княгіню?

Яна, як стомленая ад сумнага ўспаміну, сядзела зноў з заплюшчанымі вачыма, але на маё пытанне адказала:

— Спалілі яго хату ў вёсцы, а ў хаце і яго самога.

— А яго брат? Што з братам сталася?

— А брат пасля пайшоў у манастыр, у манахі. Звалі Антонам.

Я памяці мамы здзіўляўся не аднойчы.

— Колькі ж табе гадкоў было, што помніш?..

— А вось лічы. Я з сёмага. Князь памёр у дзясятым. Княгіню, звалі яе Аленай Канстанцінаўнай, хросны забіў у васямнаццатым, ранняй вясной, яшчэ снег ляжаў. Фурмана Васіля добра памятаю. Бываў у нашым доме, сябраваў з бацькам.

— А князь Абаленскі?

— Аляксей. У іх былі дзеці Зоя, Марына, Міхаіл.

— А матроса як звалі?

— Таго не запомніла. Не скажу.

Як ужо і Чэрыкаў праехалі, пад'язджалі да Крычава, мама ізноў нібы прачнулася, сказала:

— Вось што такое рэвалюцыя. З ціхага чалавека, дзіцёнка, робіць шалёнага звера. І тут у нас, і ўсюды.

Штосьці нячутнае мне прашаптала, перахрысцілася і больш — ні слова.

Каля варотцаў роднага дома першай, як заўсёды, мяне сустракае бярозка. Яшчэ калі вучыўся ў школе, яе зусім малой галінкай прынеслі мама і бацька. Бацька хацеў на гэтым месцы пасадзіць ліпку, ды ліпку не знайшлі ў лесе, вярнуліся адтуль з бярозкай. Нават паспрачаліся. Бацька даводзіў, што ў ліпкі дыханне салодкае, век даўжэйшы, кветкі лечаць, што ў бярозкі жыццё светлае, ды нядоўгае, ёй лепш стаяць за мяжой ад завулка. Але як спрэчкі ўляглiся і бацька быў на працы ў сваёй вучэльні, мама паклікала мяне з хаты, і бярозку мы з ёю пасадзілі каля варотцаў. Вяртаючыся з працы, бацька бярозку заўважыў, пастаяў ля яе, усміхнуся і дома ані слова, нас з мамай не папракнуў. Гэтакая была ў яго натура: сваю думку меў, паказваў, але калі хтосьці з ім не пагаджаўся, рабіў іначай, ён толькі скептычна ўсміхаўся, не пярэчыў, не папракаў і пасля, як выяўлялася, што нехта, зрабіўшы па-свойму, памыліўся. І вось ужо наша бярозка перажыла бацьку, перажыла маю сястру, засталіся мы з мамай ды гэтае дрэўца, ужо дрэва, нагадваючы пра бацьку, пра яго памяркоўнасць і дабрыню. Як кожнай вясною, дрэва зноў сустракала нас поўніцай: бярозавік з краямі ў вялікім слоіку. Паставіў трохлітровік сусед праз плот Грыша і бярозавік не зліў, дазнаўшыся, што мы з мамай вяртаемся з Мінска.

У доме сыра, холадна, нават, здаецца, халадней, як на дварэ. Там хоць холадна, але ўсё навокал падказвае, што вясна, сонейка як ні хаваецца за хмарамі, а зноў ды зноў выблісне, кожнай жывой душы ўсміхнецца. Мама, як зайшла ў хату, адчыніла адразу дзверы: выходзь адсюль, дух зімовы. Я прынёс з хлеўчука дровы: бярэма да адной грубкі, ляжанкі ў старой палавіне, бярэма да другой, галандцы ў навейшай прыбудове, якую ставіў, калі завёў сваю сям'ю, ды па вядры сухога, за зіму вылежанага брыкету. На табурэцік да ляжанкі прысела мама, развяла за дзверцамі агонь, каля галандкі я прысеў: такая радасць пагрэцца ад агеньчыка ў родным доме.

Калі напалілі грубкі, спалілі прынесеныя дровы і брыкет, я выйшаў у сад. Было, як ехалі і як прыехалі, пагодліва, хоць і без сонейка, неба хмарыла, а тут ужо і дождж, і снег у твар з ветрам лепіць, за ім і дрэваў не відаць, і суседніх дамоў. Сюды едучы, думаў, што адразу пачну шукаць каня, выносіць з ямы пад падлогай бульбу, каб, не марудзячы, адсеяцца, скапаю зямлю пад грады, але цяпер думка змянілася: як сеяць, калі снег? А ты не думай загадзя, кажа мама, вясна ад нас нікуды не збяжыць, адсеемся. А сама, бачу, таксама хвалюецца. Сказаў ёй, што трэба ружы раскрыць, што блізка Пасха, Радаўніца, а яна мне пра вясну, што нас яна пужае снегам, а сама яго баіцца, насыпле і адразу згоніць.

Увечары, калі добра сцямнела і мама ўжо спала ў сваім цёплым, за напаленай ляжанкай, пакойчыку са святымі абразамі на сценах і століку, я сядзеў у спальні з галандкай за сваім старэнькім пісьмовым сталом, пераглядаў бацькавы кнігі і сшыткі. "Дзённік. Назіранні надвор'я і сваіх душэўных перажыванняў". Гэты сшытак аднойчы ўжо трапляў мне ў рукі, але тады я ім не зацікавіўся. Цяпер, як першы раз убачыўшы, трымаў з радасцю. Ён пачынаўся з запісу: "1955, красавік. Вясна яшчэ не прыйшла. Пяць градусаў марозу. Дзьме халодны паўночны вецер. На сонцы ні кроплі вады са стрэх". Другі запіс: "23 красавіка. Мароз, мяцеліца. Дзверы з сенцаў ледзь адчыніў — сумёт па грудзі. Выграбся і думаў: дзе тая вясна затрымалася?"

Палагаднела ў мяне на сэрцы: яшчэ ў нас 20 красавіка, а снегу ўжо няма, звечара быў разгуляўся ды адразу і сплыў. Наша вясна нібыта запазнілася, але ўсялякія вёсны і раней бывалі.

Вось і яшчэ радкі:

"29 красавіка. Цёпла. З ног скінуў валёнкі".



Тут я ўсміхнуўся бацьку праз далеч гадоў, падумаў: за гэтыя тры слоўкі я цябе, тата, абняў, бы за шчырасць з валёнкамі, да сэрца прыцісну. Усяго тры слоўкі і дзень, 29 красавіка, а колькі мне сказаў і пра вясну, і пра зіму, і пра жыццё ў валёнках, якія я і цяпер памятаю, абсмаленыя на гарачай ляжанцы, з кароткімі халяўкамі, бо абрэзкамі ўмудрыўся іх, стаптаныя, яшчэ і падшыць. Зачапіў і тым, што спадзяванняў у мяне на цяплынь болей, як было ў цябе: у нас толькі 20 красавіка, а свае валёнкі мы даўно паскідалі.

Стаяў я каля грубкі, абхапіўшы, як люблю, рукамі, грэўся і думаў: чаму сюды, у родны дом, у свой з маленства сад-агарод гэтак моцна вабіць вясною? Якой бы яна ні выдалася, ранняй ці позняй, а сэрца па радзіме заные, як пачне сплываць снег, агаляцца зямля. Тут добра і ўлетку, асабліва з вудамі на Сажы, добра і ўвосень, як за Сажом у лесе высыпяць грыбы, паспее садавіна, але вясною жыць ад яе далёка зусім немагчыма. Лета — пара спакусаў, у тым шэрагу і грэшных, восень выстаўляе рахункі за грахі лета, а вясною самая шчырасць, агаленасць душы пасля зімовай, у сцюжы, маўклівасці ды цярплівасці, самая даверлівасць усяго жывога перад светам. І дзе ж яшчэ агнцу божаму агаліцца без страху, як не ў роднай старонцы? Тут, праўда, як усюды, не без дурняў, якія шчырасць не заўсёды разумеюць, нават баяцца яе, але калі давер да вясновай душы яшчэ не звёўся, існуе, дык найперш тут, дзе родны дом. Пра гэта не заўсёды думаеш, але гэта заўсёды адчуваеш. Вось і цягне сюды на шчырасць. Тут ты адкрываешся не аднаму роднаму куту, а ўсяму свету. Тут і свет табе адкрываецца з найбольшым даверам. Тут адчуваеш, што і ўвесь свет — родны дом.

Нечакана з бацькавага сшытка на стол вываліліся спісаныя школьным фіялетавым чарнілам пажоўклыя ад задоўгага веку старонкі. Прыгледзеўся: рука пісала знаёмая. Пачаў чытаць. "Я цябе, Халімон, уяўляю такім, якім бачыў у маладосці. Ці носіш ты бараду? Што сівы, не думаю. Ты падобны на свайго дзеда Марціна, майго дзядзьку. Марцін нават стары не меў сівізны. Барада ў яго была вялікая, валасы на галаве стрыг укруг, целам быў буйнейшы за майго брата Яфрэма, нябожчыка, хоць той быў вельмі буйны. А твой бацька Сяргей, сын Марціна, на яго не падобны. Ты ўдаўся не ў бацьку, а ў дзеда. Марціна я бачыў жывога, добра памятаю і магу табе апісаць".

Ліст Максіма Ладошкіна з Вішары — сталінскага Гулага? Так. Тут два мае дзяды, Максім і Марцін. Максім — бацькаў дзядзька і акрамя таго бацькаў духоўнік, які вучыў бацьку ў маладосці і грамаце, і веры ў Бога, і розным навукам, сваім ідэям ды ідэалам, Марцін — мой прадзед. Я шукаў іх і не знаходзіў, ведаў, што яны ёсць, і ні слова пра іх не чуў ад бацькі, як не чула раней ад яго і мама. Але гадоў колькі назад я натрапіў у шуфлядзе бацькавага стала на адну старонaчку з вішарскім адрасам Максіма, з яе дазнаўся пра Марціна. Кінуўся з той старонкай да мамы: дык хто яны мне, Марцін і Максім, што ведае яна пра іх? Мама разгубілася, аж рукі з тым лістом у яе закалаціліся, пачала як апраўдвацца, нібы толькі і ведае, што ведаў я, бацька пра іх ніколі не казаў. Ужо назаўтра, як адумаўшыся, сказала мне не шмат чаго пра Максіма, што ён, як выйшаў з лагера на вольнае селішча, атрымаўшы дазвол пісаць на радзіму, пачаў пісаць бацьку, пісаў шмат, ліст за лістом, і што тыя лісты яна, перачытваючы, паліла ў печы, бо гэта загадаў бацька. Каб ніхто пра іх, пра самога Максіма нічога не ведаў. Я закрычаў: "Што ты мне кажаш, мама? Лісты майго дзеда ў печ? Ты іх паліла?.." А яна мне: "За цябе баялiся. Каму-небудзь пахвалішся, якія і ад каго ў хаце лісты, языком, не падумаўшы, ляпнеш, дзе не трэба, а людзі розныя, ёсць тыя, што толькі і ловяць неасцярожнае слова з твайго языка, каб на цябе данесці, загубіць цябе". Доўга я не пагаджаўся з мамай: "Што мог я ляпнуць?.." — "Ды што твой дзед вораг народа, быў высланы на Салаўкі..." — "Якія Салаўкі? Каму ён вораг?.." Мама нават і абурылася, што з ёю я не пагаджаўся: "Якія?.. А такія. Прайшоў і Салаўкі, і Вішару..." Я на сваім стаяў: "Ды чаго ты баішся?.. Ну так, была графа ў анкетах: хто з блізкіх сваякоў судзімы, высланы... Што я мог напісаць? Ніхто, пісаў, не судзімы, ніхто не высланы. Максім не родны дзед?.. Стрыечны. Ды пра дзядоў ніхто і не пытаўся. Ёсць маці, бацька, а дзед?.. Дзяды дзяржаву не цікавілі". Але пераканаць маму не мог: "Не паглядзелі б на тое, родны ці не родны ён дзед ці баба. Усё, што трэба ім, знайшлі б. Яшчэ б і за Кармыза ўхапіліся, які гэта Кармыз, чаму зрабіўся Карамазавым, калі іх не было ў раду? Знайшоўся сваяк у Дастаеўскага, пісьменніка? Спыталі б, чаму бацька то з вёскі ў сталіцу рваўся, у акадэмію, вучоным хацеў быць, а то раптам з Мінска, са сталіцы, з той акадэміі ў сваё балота збег, у вёску? Ад каго схаваўся? Што б ты ім даказваў, сынок?.. Абсеклі бы ўсе дарогі і табе..."

Замоўк тады я, здаўся. Стамілася і мама даказваць.

Дарогі да Максіма я ўсё ж шукаў і аднойчы, едучы ў сваю хату з Магілёва, пад Чавусамі звярнуў у Прыданцы, бацькаву вёску. Прайшоў па хатах — ніхто не адгукнуўся на мае пытанні: не ведалі ўжо ні бацькі, ні яго родзічаў, ні Максіма, хоць і жылі Ладошкіны ў вёсцы — не тыя, корань іншы? У суседняй вёсцы запыніўся, у Васькавічах. Там падказалі хату, дзе адзінокая старая жанчына. Зайшоў. Збоку ад парога — печка, за печкай мост, падобны на ложак, ляжыць на баку старая, глядзіць на мяне шклянымі чырвонымі вачыма. Я паздароўкаўся — маўчыць. Пытаюся пра Ладошкіна — маўчыць, хоць і вачыма паліць, не міргаючы. Глухая ці нямко? Агледзеўся: нікога іншага ў хаце. З хаты ісці? Яна на лаўку паказала. Сеў — пытаецца: "Ты не міліцыян?" Кажу, што не, каго шукаю, прозвішчы назваў: Ладошкіна, сваё. Майго не ведала, але сказала, што ў свет з Прыданцаў выйшаў Халімон Кармыза, што з Халімонам сябраваў яе старэйшы брат Максім Ладошкін. Тут мая радасць выбухнула: "Дзе ён цяпер, Максім? За што яго?.." Хацеў спытаць, за што забралі, асудзілі, ды адчуў, як напалохаю старую сваёй цікаўнасцю, асекся. Яна сказала, што пра яго не ведае нічога, жывы ці не жывы, калі жывы, то дзе, бо свет вялікі, пад нейкую хусціну схавала ад мяне палову твару, аж да вачэй. А вочы завастрыліся, і я гэта заўважыў: казаць баялася? Тады і рызыкнуў адкрыцца: "Я Халімона сын, а Халімон ды Максім сябры? Яго шукае бацька. Дык дзе ён?.. Дзе?.." Хусціна з твару спаўзла. Старая прыўзнялася з крэктам. "Даўно гэта было, — прамовіла, не адымаючы ад рота кулакі. — Яшчэ, можа, у дваццаць сёмым. У мяне тады дачка памерла. Бралі кулакоў і яго з імі разам. А ён які кулак? Ні каня, ні каровы, ні хаты. Пры школе жыў, дзяцей вучыў. А хто казаў, што як бандыта бралі. Які з яго бандыт? За галаву? Вялікая была галава. Усё ведала. За галаву, каб дурням, што пры ўладзе, не псавала ходу. І гэтак казалі. Я не ведаю". Зноў легла, нацягнула на сябе хусціну, рог закусіла ў роце. Прыехаў я з Васькавіч да мамы, ёй расказаў, што ад старой пачуў. Мама — ні слова мне пра гэта. Выслухала, памаўчала, пайшла за печ у свой куточак і вынесла адтуль два жоўтыя аркушыкі. Вось, кажа, ліст ад Максіма. Схапіў я тыя аркушыкі, вочы мае пабеглі па радках.

Пісаў Максім:

"Калі я адбыў у суровых таежных краях свае карныя гады, выйшаў на вольнае пасяленне, мяне накіравалі на кансультацыю да дактароў у горад Перм. Плыў туды па Вішары, потым па Каме, у Пермі з'явіўся, як было загадана, у ГПУ, там сказалі, каб знайшоў начлег і адразу паведаміў адрас. Узяць на ноч з маім воўчым дакументам маглі толькі ў Доме селяніна, а там усе пакоі і калідоры людзьмі набітыя. Пакуль адміністратар вывучаў мой дакумент і некуды званіў па тэлефоне, мяне ўжо акружылі пастаяльцы, шэпчуцца, што катаржнік, пытаюцца: "Ты людзей забіваў?" Кажу, што забіваў, але за тое адседзеў. "А колькі забіў, аднаго ці болей?" Кажу, што не лічыў, але шмат і яшчэ болей пакалечыў. Вакол мяне загулі, завохкалі. Пытаюцца, ці шкадаваў я іх. Кажу: навошта шкадаваць, калі яны самі сябе не шкадуюць, каторыя нават і радыя былі, што забіваю, што смерць іх пазбаўляе ад пакут у жыцці, ад голаду, жабрацтва, у зямлі ляжаць лягчэй, як па зямлі хадзіць ці поўзаць. Аднаго толькі, кажу, шкада было, купца багатага, адпетага зладзюгу, бо жыў, як сыр у масле качаўся. Тады загулі мацней, пачалі патрабаваць, каб я іх пакінуў, паклікалі адміністратара, і той, вярнуўшы мне мой дакумент, выставіў за дзверы. Вярнуўся я ў ГПУ і кажу, што ў Доме селяніна не спадабаўся мой пашпарт, не прынялі, што дом у мяне адзіны — ГПУ, тут заначую. Тады з ГПУ пазванілі ў той Дом і зноў туды адправілі. Там далі куток на калідоры, на падлозе: кладзіся і маўчы. Але як улёгся, пастаяльцы да мяне: "Як шкадаваў купца забітага?" Кажу: "Я за яго душу маліўся". Тут басам і завёў: "Супакой, гасподзь, душу раба твайго, імя якога ёсць ты сам!.. Гасподзь, уратуй і памілуй!.." Здрыгануліся жывыя душы, завохкалі, загаманілі пастаяльцы: "Дык гэта ж поп!.. Вунь галасіна! Поп і злодзей, бандыт?!" А ты, Халімон, мой бас чуў, як я спяваў у саборы. Праўда, калі ў тваім лісце прачытаў, што ў школе пад Мінскам, здаецца, у Астрашыцкім Гарадку, ты працаваў разам з родным братам вялікага спевака Івана Сямёнавіча Казлоўскага, што Іван Сямёнавіч прыязджаў да вас, да брата, слухаў твой бас, з лыжачкай глядзеў у тваё горла, як прырода яго вылепіла, дык я пазайздросціў табе і падумаў, што спяваеш ты лепш за мяне. Прыціхлі пастаяльцы, мой бас пачуўшы, і раптам жаночы голас: "А шмат вы грошай узялі ў купца, якога забілі?" Кажу, што шмат і ўсе праматаў. Просяць: "Раскажыце, як іх праматалі?" І пачаў я ім плесці лапці: "Далёка ад нас на ўсходзе ёсць горад Благавешчанск, у якім дзіка праматваюць грошы золаташукальнікі з Алдана і паляўнічыя на гарбачоў, мядзведзяў. Ёсць там дамы цярпімасці для кітайцаў, рускіх і японцаў. Прыедзе гуляка, аплаціць дом з усімі прыгажунямі, заставіць вялікі стол у вялікай зале піцвом і самымі дарагімі закускамі, далікатэсамі, усе п'юць і ядуць, спяваюць і скачуць, адсюль — у фурманкі-карэты з бомамі ды стужкамі, давядуць да шаленства коней, таксама падпітых, тады ўсе гуртам у лазню, а гуляка з самымі прыгажунямі пад адным венікам. Гэтак дзень за днём, ночка за ночкай, пакуль не праматае гуляка ўсе свае грошыкі, а як праматае, тады развітаецца з вясёлым жыццём, вяртаецца да золата ці да гарбачоў у тайгу, каб зарабіць для наступнага прыезду ў Благавешчанск". Закончыў я сваё казанне, а дзве дзяўчыны падпаўзлі ды просяць: "Ты нам, дядзечка, раскажы яшчэ што-небудзь салодзенькае".

Ну падвесяліў я цябе, Халімон? А цяпер апішу свае хваробы, каб не падумаў ты, што мне тут весела, як таму гуляку ў благавешчанскім бардаку, як па кнізе ротнага фельчара часоў імператара Мікалая я тут вучыў мясцовых хірургаў выводзіць мачу з мачавога пухіра, калі сама не ідзе, і як яны мне за гэта ўдзячныя".

Чытаў я дзедаў ліст і губляўся, гадаў і дзівіўся, што ён за чалавек, пакутнік на Салаўках, на Вішары альбо блазан, дзе ў яго праўда і дзе жарт? З лістом падышоў да мамы, пытаюся ў яе, што казаў бацька пра Максіма, які ён, яму Салаўкі ды Вішара — катарга ці жарты? А я, кажа, сама пра гэта думала спачатку, чытаючы першыя лісты, і ўжо гэтак не думала, як прачытала тыя, што ў агонь кідала, ля печы стоячы. Пачаў я дапытвацца, што было ў тых лістах. Маўчала. Нарэшце, без ахвоты, каб я адчапіўся, загаварыла: "А што было?.. Ну, пісаў, як іх, беларусаў, этапам у тайгу гналі. Як з Салікамска плылі на баржах. Апранутыя былі з лета на восень лёгка, а як з Камы ўвайшлі ў Вішару, баржы пачало замятаць снегам, пайшоў дождж ледзяны, схавацца няма куды, баржы адкрытыя, усё, што з неба, на галовы, і няма загаду, каб хавацца на беразе, каб паліць вогнішча. Людзі збіваліся ў гурты, грэлі адзін аднаго спінамі. Пакуль даплылі да месца, гурты замуравала лёдам. Лёд разбівалі, скідалі з баржаў у раку разам з памерзлымі. Пашанцавала тым, хто ў гуртах быў усярэдзіне, жывымі засталіся, сярод іх і Максім. На бераг вываліліся, а там усё пад снегам, ані якой страхі ці ямы, хоць ад ветру, і мароз з кожным днём мацнейшы. Пісаў Максім, што мерлі, як мухі..."

Штосьці мама не дагаварыла. Ці сілы не хапіла, ці якая думка запярэчыла. Пайшла ў свой куточак, не абяцаючы яшчэ што ўспомніць, а я пайшоў у свой, убачыўшы, што адпачыць ёй трэба. І раптам прычыніла да мяне дзверы, зайшла ў пакой, паклала на стол перада мной вузельчык, штосьці ў сваёй старой, са школы мне знаёмай, выцвілай хусцінцы.

— Тут усё, — сказала, — што я зберагла. Цяпер яно тваё.

Адразу і выйшла з пакоя, як выканаўшы абавязак. Я развязаў вузельчык, адчуўшы ў ім штосьці вельмі значнае, мне патрэбнае. Там былі лісты ад Максіма Ладошкіна.

## ЛІСТ ДРУГІ, першы з мамінага вузельчыка:

"Атрымаў, Халімон, ад цябе фотаздымак і не паверыў, што гэта ты. Твой дзед Марцін і прадзед Іван былі фізічна і духоўна здаровыя людзі, жылі да глыбокай старасці, Марцін 98, а Іван пераваліў за 110, і жылі б даўжэй, калі б у жыцці, у вёсцы, было больш культуры.

Марціна я добра памятаю. Ён заходзіў да нас, калі я быў яшчэ малым, а пасля мне пра яго шмат казала мая мама, яго сястра. Быў ён спакойны, разважлівы, часцей слухаў іншых, як гаварыў сам. Збяруцца, бывала, мужыкі ў нашай хаце, вып'юць і ўжо раты не зачыняюць, размовы бясконцыя, а ён усіх слухае ды сам сабе паўтарае: "А можа? Можа, яно і так". Нікому не замінаў, не пярэчыў, але калі ў сям'і ці на вёсцы сярод мужыкоў скажа нетаропкім басам сваё слова, дык яно ўсімі прызнавалася як абавязковае. Вагу і павагу сярод людзей меў вялікія. Гэтакае важкое, бясспрэчнае ў яго было ўсё: пастаць, аблічча, рэчы. Люльку курыў вялікую, з доўгім гнутым цыбуком з чырвонага дрэва, бружмелю, прыгожа аздобленую чырвонай меддзю, срэбрам, слановай косцю, муштук быў чорны, як з моранага дуба, доўгі, пляскаты. Можа, ты, Халімон, не паверыш, скажаш, адкуль у мужыка гэтакая каштоўная рэч, па губе князю ці багатаму пану, дык дарэмна, рэч сапраўды была незвычайная, я сам яе бачыў, трымаў у руках і дзівіўся, бо меў з ёю справу. Аднойчы, калі Марцін быў у нас у хаце, ён даў люльку мне і папрасіў насыпаць у яе табакі. Я з радасцю схапіў люльку і выскачыў за парог у другую хату, дзе ляжала табака старэйшага брата. Былі там і стрэльба братава, і порах. На дно ў люльцы я насыпаў пораху, а зверху табакі. Марцін люльку распаліў, звесіў галаву, задрамаў. І раптам: "Чы-ых!" Галаву ўскінуў і зноў звесіў. І яшчэ следам: "Чы-ых!"

(Заканчэнне на 6-й стар.)

### ДАСЬЕ

**Віктар Філімонавіч Карамазаў (27 чэрвеня 1934 г., Чэрыкаў, Магілёўская вобласць) — беларускі пісьменнік. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР імя К.Каліноўскага (1990) за кнігу "Проста ўспомніў я цябе...". Узнагароджаны ордэнам "Знак Пашаны".**

**Нарадзіўся ў сям'і настаўнікаў. Скончыў аддзяленне журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (1958). Працаваў адказным сакратаром чэрыкаўскай раённай газеты "Сацыялістычная перамога", крычаўскай раённай газеты "Шлях сацыялізму", загадваў аддзелам у міжраённай газеце "Новае жыццё" (Крычаў). У 1962—1963 г. — уласны карэспандэнт абласной газеты "Магілёўская праўда". З 1964 працаваў у газеце "Звязда" — літсупрацоўнікам, потым загадчыкам аддзела навукі, ВНУ і школ, а затым загадчыкам аддзела літаратуры і мастацтва. У 1969—1971 гг. быў літсупрацоўнікам, пасля загадчыкам аддзела культуры газеты "Літаратура і мастацтва", загадчыкам аддзела мастацкіх фільмаў Галоўнай рэдакцыі "Тэлефільм", сябрам сцэнарна-рэдакцыйнай калегіі Беларускага тэлебачання. З сакавіка 1982 г. — загадчык аддзела публіцыстыкі часопіса "Полымя". У 1982—1986 гг. — кансультант СП БССР. Член Саюза пісьменнікаў СССР з 1969 года.**

**Першае апавяданне надрукаваў у 1958 (альманах "Советская Отчизна"). Першы зборнік апавяданняў "Падранак" (1968).**

**Аўтар раманаў "Пушча", "Крыж на зямлі і поўня ў небе", "Бежанцы", "Мастак і парабкі", аповесцяў, апавяданняў, эсэ, кінасцэнарыяў.**

Народная Воля
http://www.nv-online.info
27 ЧЭРВЕНЯ 2014 г.

ПЕРСОНА

# Пані кашталянка

## 25 пытанняў «гаспадыні» Мірскага замка аб ідэальных турыстах, новых габеленах і самай багатай нявесце Еўропы Стэфаніі Радзівіл

*Кашталян — гэта кіраўнік замка, высокая пасада часоў Вялікага Княства Літоўскага. У нашым выпадку — кашталянка, таму што з нядаўніх часоў на пасадзе дырэктара музейна-замкавага комплексу "Мірскі замак" працуе жанчына, малады таленавіты вучоны* ***Вольга Мікалаеўна ПАПКО.***

*Яна прыехала ў Мір усяго два з паловай гады таму, а ўжо гэтай вясной зрабіла ў музейнай супольнасці сапраўдную сенсацыю, прадставіўшы на выставе невядомыя партрэты Радзівілаў, і ў прыватнасці партрэт Стэфаніі Радзівіл, адной з уладальніц Мірскага замка. Як яна здолела выявіць рарытэты ў Еўропе, якую спецыялісты, здаецца, даўно абвандравалі ўздоўж і ўпоперак? А вось, аказваецца, і ў наш час можна рабіць адкрыцці.*

*Наогул для такога іміджавага аб'екта культуры, як Мірскі замак, Вольга Папко сапраўдная знаходка. Яна вучоны, эрудыт, валодае трыма замежнымі мовамі. І потым — абаяльная жанчына. Імклівая, мэтанакіраваная, кантактная. Для топ-менеджара гэта вельмі важна. Мне здаецца, у яе ёсць усе шанцы стаць нашай беларускай Ірынай Антонавай — сапраўднай княгіняй музейнай справы.*




**Вільнюс. Пасля падпісання дамовы аб супрацоўніцтве з дырэктарам Нацыянальнага музея "Палац вялікіх князёў літоўскіх" Відасам Далінскасам.**

*1.* **— Вольга Мікалаеўна, вы калі-небудзь меркавалі, што станеце дырэктарам замка? Гэта выпадковасць? Ці вам заўсёды хацелася дасягнуць у жыцці чагосьці падобнага?**

— Нічога не бывае выпадковым. Я атрымала гэтую пасаду ў выніку адкрытага спаборніцтва. Прыкладна за год да прызначэння ўдзельнічала ў конкурсе на пасаду дырэктара Нясвіжскага замка, таму што як гісторык займалася менавіта Нясвіжам і, у прынцыпе, працягваю працаваць над гэтай тэмай, бо хутка з адной навуковай сцежкі на іншую не збочыш. Але я заняла другое месца, і ўжо тады ў Міністэрстве культуры загаварылі пра маё прызначэнне ў Мір.

*2.* **— Але гісторык і музейшчык — гэта ж розныя віды дзейнасці, ці не праўда?**

— Тым больш што Мір — нетыповы музей...

**— Вось як? У чым жа яго нетыповасць?**

— Ні адзін музей, які знаходзіцца ў вёсцы (а гэта так і ёсць), не з'яўляецца музеем сусветнага ўзроўню. Нясвіж усё ж такі раённы цэнтр, там зусім іншыя рэаліі. Тым не менш мы ў Міры, у вёсцы, актыўна нарошчваем міжнародныя сувязі, развіваем прыём замежных турыстаў, выдаём кнігі. Як аўтару дзвюх манаграфій, пагадзіцеся, мне лягчэй разумець неабходнасць навуковых публікацый, чым проста менеджару, адміністратару.

*3.* **— Гэта значыць, што ў новым асяроддзі ў вас не было пачуцця дыскамфорту?**

— Былі складанасці, але я не магу сказаць, што мне было некамфортна. Вельмі доўга наш музей быў філіялам Нацыянальнага мастацкага музея, уся кіруючая функцыя знаходзілася ў Мінску. І калі я прыйшла на пасаду, мы ўсе былі ў аднолькавым становішчы. Супала: я малады кіраўнік і — малады музей, у якога не было вялікага вопыту асобнага існавання. Нам разам трэба было шмат чаму навучыцца.

*4.* **— Што б вы ўжо запісалі ў свой актыў за тры гады?**

— На сённяшні дзень у нас пяць моў аўдыягіда, свой фірмовы ролік, які разышоўся некалькімі тысячамі асобнікаў на пяці мовах. Мы падалі дакументы на рэгістрацыю брэнда, а таксама ліквідавалі шмат будаўнічых "хвастоў", якія дасталіся ў спадчыну. У нас падпісаны дамовы аб супрацоўніцтве з Кіева-Пячэрскай лаўрай, музеем-запаведнікам "Царскае Сяло", і ў студзені мы падпісалі дамову з Нацыянальным музеем "Палац вялікіх князёў літоўскіх" ў Вільнюсе. Усе аб'екты з'яўляюцца помнікамі ЮНЕСКА, валодаюць высокім рэйтынгам у сусветнай грамадскасці.

*5.* **— А чым канкрэтна каштоўныя дагаворы з Лаўрай, з тым жа Царскім Сялом?**

— Навуковымі канферэнцыямі, навуковым асяроддзем высокай якасці. А таксама стажыроўкамі нашых супрацоўнікаў, якія кансультуюцца ў знакамітых калег па пытаннях захоўвання экспанатаў, па прынцыпах іх апрацоўкі.

Вось зараз мы збіраемся набыць камплект посуду — мейсенскі фарфор. Усе прадметы сфатаграфаваны, здымкі пасланы ў Царскае Сяло — а дзе яшчэ мы можам знайсці лепшых кансультантаў, каб удакладніць нават кошт? Уласна кажучы, праблема і Міра, і Нясвіжа — мы не можам абаперціся на чыйсьці вопыт у нашай краіне.

*6.* **— Цікава, наш Мір — багаты замак?**

— Так, мы добра зарабляем. І дзяржава нас таксама фінансуе.

### Дасье «Народнай Волі»

*Вольга Мікалаеўна Папко нарадзілася ў Брэсце. Скончыла Брэсцкі дзяржаўны ўніверсітэт, гістарычны факультэт. Абараніла кандыдацкую дысертацыю. Аўтар дзвюх манаграфій, прысвечаных беларускай шляхце.*

Хоць у мінулым годзе нам далі няпоўныя 40 працэнтаў замкавага бюджэту. Справа ў тым, што бюджэт плануецца на год наперад, дзяржава вылучае фінансы на наступны год у залежнасці ад таго, колькі мы зарабілі ў годзе мінулым. А атрымалася, што мы зарабілі значна больш, чым планавалі.

*7.* **— Як вы думаеце, які наступны замак варта было б аднавіць у Беларусі?**

— Праца ідзе над Лідскім замкам, над Ружанамі, і гэта правільна. Гледзячы на тое, як тысячамі прыязджаюць у Мір людзі, пераконваешся, наколькі патрэбна сучаснікам гісторыя. Зусім нядаўна, у суботу 15 чэрвеня, у замку быў пабіты рэкорд наведвання — 5 тысяч турыстаў у дзень. Уявіце толькі! І большасць з іх атрымалі экскурсію, купілі сувеніры, пагулялі па ўсёй тэрыторыі, наведалі наш рэстаранчык, хтосьці спыніўся ў гасцініцы — вось у чым спецыфіка Мірскага замка. Мы стараемся працаваць так, каб людзі з'язджалі без адзінай скаргі. Пакуль што ўдаецца. Але мне цяжка сказаць, што будзе, калі ў год паток павялічыцца на 100 тысяч чалавек. Непазбежна з'явяцца арганізацыйныя складанасці. Але і цяпер 2—3 тысячы наведвальнікаў па суботах — і так усё лета — нашы рэаліі.

*8.* **— І як развесці турыстычныя групы? Я чула нараканні, што людзям некамфортна — натоўп...**

— А што рабіць? Стары замак — гэта фактычна лабірынт, тут шмат маленькіх памяшканняў. Гэта не Кацярынінскі палац у Царскім Сяле, дзе ёсць залы па 1000 квадратных метраў, можна весці 20 груп адначасова, і яны не будуць перашкаджаць адна адной. Наогул кажучы, яшчэ 10 гадоў таму ніхто нават не марыў, што наперадзе нас чакаюць такія турыстычныя аб'ёмы.

*9.* **— А чаму вы не даяце права праводзіць экскурсіі па замку спецыялістам з турфірм?**

— Раней так і было, але мы, прызнаюся, гэтую практыку адкінулі. Па-першае, мы не ведаем, якога ўзроўню спецыяліст прыехаў да нас і вядзе групу. Па-другое, мы малады музей, які актыўна купляе экспанаты, нашы інтэр'еры ўзбагачаюцца ледзь не штомесяц. Вось з'явілася шафа, і ўсе нашы экскурсаводы ведаюць, што за прадмет, да якой эпохі належыць і гэтак далей. Гэта значыць нашы работнікі ў курсе ўсіх падзей. А экскурсаводы з боку — наўрад ці, яны не могуць валодаць поўнай інфармацыяй і не могуць падзяліцца ёю з турыстамі.

**— І здараліся канфлікты?**

— Быў такі факт, што ў наш "бясплатны дзень" фірмы не зніжалі цэны на квіткі турыстам. Мы гэта ўлавілі, адрэагавалі. Зараз мы настойваем, каб турыстаў апавяшчалі аб бясплатным наведванні. Мы бяром грошы толькі за экскурсію.

*10.* **— Як вы адказваеце крытыкам на іх нараканні, што Мір — суцэльны "новодел"? Гэтая хваля, праўда, зараз крыху згасла.**

— Пад хвалямі крытыкі знаходзіліся ўсе аб'екты ва ўсіх краінах, дзе аднаўляліся старажытныя помнікі культуры. Палац князёў літоўскіх у Вільні, які адкрыўся ў 2013 годзе, наогул пабудаваны на падмурку старажытнага палаца, гэта значыць цалкам навабуд у адрозненне ад Міра, у якім захавалася шмат старажытных сцен. Дык вось і ён таксама выклікаў негатыўную ацэнку многіх сваіх суайчыннікаў. І яшчэ: я не магу адказваць за рэстаўрацыю, але калі такі аб'ект, як Мір, акумулюе навуковыя сілы, каштоўныя гістарычныя экспанаты — хіба гэта дрэнна? Магу дадаць, што спецыялісты ЮНЕСКА — генеральны дырэктар спадарыня Ірына Бокава, якая пабывала ў нас не так даўно, — высока ацаніла Мірскі замак. Гэта былі адны суцэльныя захапленні, паверце. Асабліва спецыялістаў радуе, што аднаўленне такога помніка па-новаму поўніць жыццё населенага пункта. Уласна кажучы, як трохі жартам кажуць самі жыхары, існуе "закон замка": калі табе нешта трэба, прыйдзі ў замак — і там да цябе само ўсё ў рукі прыплыве. Сапраўды, замак прыцягвае людзей, падзеі, ён у цэнтры ўвагі краіны. Каля яго можна знайсці працу, сувязі, сяброў.

*11.* **— Як вы думаеце, ці ўсе мясцовыя жыхары пабывалі ў замку?**

— Думаю, не. Маючы зносіны з імі ў крамах, на вуліцах, часта, уявіце, чую: "А што ў вас там, няўжо нешта цікавае ёсць?" 23 лютага гэтага года мы зрабілі акцыю: бясплатны ўваход для ўсіх жыхароў Карэліцкага раёна. Хоць бясплатны дзень у нас і так ёсць — апошні панядзелак кожнага месяца. Але 23 лютага было для сваіх, карэліцкіх. І прыйшло аж за 1200 чалавек.

*12.* **— Дарэчы, у вас няма праблемы з кадрамі?**

— Нам не хапае навуковых сіл. А наглядчыкаў дастаткова. Праўда, іх, мясцовых жыхароў, прыходзіцца шмат чаму вучыць. Нават стылю адзення. Хоць адчуваецца часам супраціў. Але я звычайна кажу супрацоўнікам: "Так, вы жывяце і працуеце ў роднай вёсцы, але вы забываеце, што цяпер гэтая вёска вядомая на паў-Еўропы. Трэба адпавядаць статусу замка!"

*13.* **— А дзе вы самі апранаецеся, спадарыня кашталянка? У вёсцы няма модных магазінаў.**

— У Мінску — рэдка. Вельмі часта я купляю вопратку ў Брэсце. Мне здаецца, ён сталіца жаночага айчыннага адзення. Я даўно люблю фірму "Киара", магу сукенку і без прымеркі купіць, настолькі ёй давяраю.

*14.* **— Якія турысты вам падабаюцца? У вас ёсць ідэальны вобраз наведвальніка?**

— Ён зборны. Напрыклад, палякі добра ведаюць гісторыю. Калі я вяду экскурсію і кажу пра Пане Каханку, яны разумеюць, пра каго ідзе гаворка. А расіянам трэба ад пачатку: "Жыў-быў цар...", але затое яны вельмі жыва рэагуюць, ім падабаюцца гэтыя гісторыі. Расіяне дысцыплінаваныя, іх не палохаюць чэргі ў касы, у гардэроб. У мяне дзверы кабінета выходзяць прама на месца сустрэчы турыстаў, дык скажу, што нашы паводзяць сябе значна больш шумна. Часам выходжу, а там моўчкі стаяць 40 чалавек — расіяне. Людзі, якія жывуць у мегаполісах, прывыклі да чэргаў, да таго, што не ўсё адразу і на талерцы. Яшчэ да нас стала ездзіць шмат літоўцаў, часам да чатырох аўтобусаў у суботу-нядзелю. Ездзяць карэйцы, кітайцы. Японцы бывалі. Аднойчы я вяла для іх экскурсію на польскай мове — такая цікавая камбінацыя. Гэта былі японцы-паланісты.

*15.* **— А хто са знакамітасцяў апошнім часам прыязджаў у замак з начлегам?**

— Акцёры, музыканты часта спыняюцца ў гасцініцы. Ды я не заўсёды цікаўлюся прозвішчамі гасцей.

*16.* **— Але вы, здаецца, да гэтага часу таксама жывяце ў гасцініцы?**

— У гасцінічнай частцы. Гэта маленькая кватэрка з кухняй.

**— Гэта значыць, вам схавацца ад староннiх вачэй немагчыма?**

— Цяжка, скажам так. Затое ёсць і плюсы: на першым этапе, калі трэба было паглыбляцца ў дэталі, я была ў курсе ўсяго, што тут адбываецца.

*17.* **— Вольга Мікалаеўна, вы праводзіце ў замку балі, турніры, фестывалі, вяселлі — спрабуеце самастойна зарабляць, як таго патрабуе час. Скажыце, гэта не пагражае музею, яго духу вульгарным закалочваннем грошай?**

— Разумееце, маючы грошы, мы значна больш можам зрабіць у навуковай дзейнасці. Паводле нашай просьбы тры лепшыя спецыялісты з Інстытута гісторыі Акадэміі навук напісалі працу аб родзе Іллінічаў, нашых першых уладальніках (род вымер ў 60-я гады XVI стагоддзя). Але ў нашым музеі няма ніводнага спецыяліста па XVI стагоддзі, гэта вельмі спецыфічныя веды. Затое ў нас ёсць магчымасць прафінансаваць гэтае даследаванне, замовіць потым кнігу ў лепшым выдавецтве нашай краіны. Вось для чаго музею патрэбна камерцыйная дзейнасць. Фінансавая свабода дае шмат плюсаў. У кастрычніку мінулага года мы купілі габелен. Магчыма, і да гэтай восені на адзін-два грошай заробім. Ды і нашы супрацоўнікі выдатна ведаюць: шмат турыстаў — прэмія ў канцы месяца павялічыцца.

*18.* **— Скажыце, а ці не было прапаноў ад вышэйшага чынавенства аддаць замак на два дні пад вяселле? Вось у Расіі так бывала...**

— Не. Калі толькі ў рэстаране... А наогул, у нас ёсць такая паслуга: вясельная цырымонія на 45 хвілін у партрэтнай зале. Яе кошт 3.900.000 рублёў. Гэта прыгожая цырымонія, выдатнае мерапрыемства. Хаця б таму, што на вяселле прыязджаюць розныя людзі, некаторыя, у прынцыпе, у музеі не ходзяць. А тут з'яўляецца магчымасць паказаць ім экспазіцыю.

*19.* **— Нядаўна краіну абляцела навіна: у Міры адкрылася выстава невядомых радзівілаўскіх партрэтаў з Баварыі. Як вы выявілі гэтыя рарытэты?**

— Я шукала канкрэтна партрэт знакамітай прыгажуні, самай багатай нявесты сваёй эпохі Стэфаніі Радзівіл. Яшчэ працуючы ва ўніверсітэце, я лічыла, што шукаць яго трэба ў Германіі, дзе жыла дачка Стэфаніі. У Міры я занялася пошукамі ўшчыльную, стала метадычна праглядаць сайты палацаў Германіі, якія належалі або маглі належаць яе сям'і. Сыграла ролю маё веданне нямецкай мовы, я на нямецкай штудзіравала інтэрнэт, таму што падумала, што ў кожным нават маленькім мястэчку ёсць бібліятэчка, і калі туды напісаць, дык яны адкажуць. Так і адбылося! Я выйшла на князя Гагенлоэ. Вядома, спачатку я атрымала вельмі сціплыя звесткі, літаральна праз коску: у замку ёсць партрэты Дамініка Радзівіла, Стэфаніі Радзівіл. Але я паехала, убачыла ўсё на свае вочы: партрэты, рэчы Стэфаніі, залатую сукенку яе дачкі Марыі, якую 117 гадоў таму яна апранала на сваё залатое вяселле. А яна ж наша ўладальніца, якая менавіта ў 1891 годзе прадала Мірскі замак Святаполк-Мірскім... Прызнаюся, у мяне два тыдні быў павышаны ціск.

*20.* **— Цікава, уладальнік рарытэтаў князь Канстанцін Гагенлоэ ведаў нешта аб Міры?**

— Не ведаў. Справа ў тым, што князь не з'яўляецца прамым нашчадкам Радзівілаў. Ён жыве ў прыгожым палацы са 103 пакоямі, і я вельмі спадзяюся яшчэ пакалупацца ў яго пакоях-складах. Замак — залатая жыла, там яшчэ будзе шмат адкрыццяў.

*21.* **— Можа, сям'я пагодзіцца нешта прадаць? Ці... падарыць?**

— Цяжка сказаць... Князь добра ішоў на кантакт. Хоць было нялёгка арганізаваць страхоўку карцін, транспарт з Мюнхена ў Мір. Мае супрацоўнікі і я ездзілі туды не раз.

*22.* **— А дзе вы, Вольга Мікалаеўна, вывучылі тры замежныя мовы — англійскую, нямецкую, польскую?**

— Дарэчы, гэта быў той плюс, які мне дазволіў перамагчы ў конкурсе на месца дырэктара. Я вучылася ў ліцэі №1 горада Брэста, там былі абавязковыя дзве замежныя мовы. Я ўдзячная ліцэю, вучоба была на вельмі высокім узроўні. Потым я паляпшала свае веды самастойна, практыкавалася, але асновы былі закладзены менавіта ў ліцэі. І харэаграфія была — нас вучылі танцаваць вальсы, полькі. Цяпер гэтыя навыкі мне не лішнія ў працы. А польскую вывучыла на гістфаку ва ўніверсітэце Брэста. Потым ўдасканальвала веды, таму што як гісторык пастаянна працую з польскімі дакументамі. Ну і шмат гадоў запар гляджу польскі серыял "Л., як каханне". Гэта, вядома, жарт, але калі я кажу пра гэта палякам, жарт заўсёды мае поспех.

*23.* **— Калі вы надоўга едзеце ў камандзіроўку, колькі разоў на дзень тэлефануеце ў замак, каб пракантраляваць падначаленых?**

— Не часта. Я пакідаю пералік даручэнняў і адказных. Адзінае, што мяне хвалюе у канцы месяца: колькі чалавек было ў замку. Я абавязкова тэлефаную касіру.

*24.* **— Вы водзіце аўтамабіль?**

— Вымушана была асвоіць.

*25.* **— Скажыце, а калі б у замак на экскурсію прыехаў прэм'ер-міністр Мясніковіч, што б вы папрасілі для музея?**

— Магу сказаць, што аднойчы такая сітуацыя ўжо была. Прэм'ер-міністр спытаў, што мне як дырэктару трэба. Я адказала: "Мы самі на свае патрэбы зарабляем". Ён здзівіўся.

**Алена МАЛОЧКА.**

ПА-ЗА СЦЭНАЙ

## Купалаўскі тэатр аб'явіў зніжкі

*Квіткі на абсалютна ўвесь ліпеньскі рэпертуар Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы можна набыць са зніжкай 30 працэнтаў.*

Вядома, што апошнім часам трапіць у Купалаўскі тэатр, асабліва калі гаворка ідзе пра прэм'ерныя спектаклі, не так і проста. На некаторыя пастаноўкі квіткі раскупаюць літаральна за некалькі дзён. Так было, напрыклад, са спектаклямі "Пан Тадэвуш", "Мястэчковае кабарэ" і іншымі.

Але калі няма праблем з запаўняльнасцю залы, навошта тэатр ладзіць акцыю са зніжкамі?

*— Звычайна за пару дзён да некаторых спектакляў у касе застаюцца квіткі,* — патлумачылі "Народнай Волі" ў службе гледача Купалаўскага тэатра. — *Здараецца, што гэта няпарныя квіткі, альбо на тыя месцы, дзе абмежаваны агляд сцэны. Вось на гэтыя квіткі, а таксама на ўсе тыя, што засталіся ў касе за два дні да спектакля, мы і робім 30-працэнтную зніжку.*

Існуе меркаванне, што ў першую чаргу звычайна разыходзяцца самыя танныя квіткі. Але ў службе гледача Тэатра імя Янкі Купалы абвяргаюць гэты факт.

*— Якраз спачатку выкупляць дарагія білеты, на самыя лепшыя месцы,* — тлумачаць спецыялісты Купалаўскага. — *Застаюцца месцы па баках залы, на балконах, на бельэтажы.*

Колькі сёння каштуе самы дарагі білет у Тэатр імя Янкі Купалы?




*— У залежнасці ад таго, які спектакль — прэм'ера ці не,* — кажуць у службе гледача. — *У нас ёсць так званы VIPаўскі рад, дзе звычайна размяшчаюць уплывовых асоб, якія наведваюць наш тэатр, — гэта чацвёрты рад. На гэты рад пасадзяць і кіраўніка дзяржавы альбо іншых высокіх чыноўнікаў. Максімальны кошт квітка на некаторыя нашы спектаклі на гэтыя месцы дасягае 340 тысяч беларускіх рублёў, а так асноўная маса — да 200 тысяч.*

**Марына КОКТЫШ.**

ГАСТРОЛЬ

## Развітальны тур «Ляпісаў»

*Кароткі развітальны тур групы "Ляпіс Трубяцкі" "Клоўна няма" пройдзе ў жніўні ў чатырох гарадах — Вільнюсе, Маскве, Санкт-Пецярбургу і Кіеве.*

На 22 жніўня запланаваны канцэрт у Маскве, 23 жніўня прыхільнікі "Ляпісаў" змогуць развітацца з імі ў Вільнюсе, 26 жніўня канцэрт адбудзецца ў Кіеве, а 28 жніўня — у Санкт-Пецярбургу.

Як паведамляецца на сайце гурта, квіткі ўжо прадаюцца.

Нагадаем, у сакавіку 2014 года лідар гурта "Ляпіс Трубяцкі" **Сяргей Міхалок** абвясціў, што з 1 верасня група спыняе сваё існаванне.

СВЕЦКАЯ ХРОНІКА

## Гюнеш выйшла замуж

*Беларуская спявачка Гюнеш некалькі дзён таму згуляла вяселле з футбалістам турэцкага "Галатасарая", трэнерам Гёкханам Джынгезам. Фотаздымкі з імпрэзы спявачка выклала на сваёй старонцы ў адной з сацыяльных сетак.*

Вясельная цырымонія адбылася ў Стамбуле.

**Вера ВІР.**



НУ І НУ!

## Венікам у вока

*Мінскі дворнік выбіў венікам вока мужчыне, які кінуў недакураную цыгарэту на зямлю. Цяпер яго будуць судзіць.*

Пракуратура Кастрычніцкага раёна Мінска накіравала ў раённы суд матэрыялы крымінальнай справы па абвінавачванні дворніка аднаго з буйных прамысловых прадпрыемстваў сталіцы ў наўмысным прычыненні цяжкіх цялесных пашкоджанняў з хуліганскіх памкненняў.

Намеснік пракурора Кастрычніцкага раёна **Данат Дабравольскі** распавёў belapan.by падрабязнасці справы. Як высветлілася, рабочы прадпрыемства паліў перад планёркай, затым кінуў недакурак на зямлю. Сведкам таго, што адбылося, стаў дворнік. Ён дачакаўся неакуратнага грамадзяніна пасля планёркі і выказаў усё, што думае з нагоды такіх паводзін. Гутаркаператварылся ў канфлікт. Дворнік спачатку нанёс рабочаму ўдары венікам па баках, а затым ткнуў ручкай веніка яму ў левае вока, у выніку чаго тое выцекла...

